Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 77 (128). Вільня, Субота 22 Кастрычніка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Сумныя зьявішчы.

Адбыліся самаўрадавыя выбары амаль што па вёсках усяе Беларусі. Гэтыя выбары, на раду з сумнымі праявамі, паказалі бадай што болей пацяшаючых праяваў.

Але адбываліся і адбываюцца выбары і па местах Беларусі! .. Калі мы маглі запісаць на старонкі беларускіх газэтаў многа радаснага ў адносінах да валасных самаўрадаў, дык, на вялікі жаль, ня можам гэтага зрабіць адносна места.

Натугамі беларускага грамадзянства ў Вільні, у культурным цэнтры Беларусі, на 48 радных да меставое рады прашло толькі двух Беларусаў. І гэтаму мы радуемся, бо і гэта сьведчыць, праўда, аб невялікай, але-ж, ўсё-ж такі нацыянальнай перамозе. У іншых меншых местах Беларусі таксама прыходзілася спатыкаць аднаго—два такіх радных, якія залічылі сябе Беларусамі. Найгорш з усіх паказала сябе Горадня, бо там, на 32 радныя не аказалася аніводнага Беларуса.

А знача, калі мы будзем разглядаць справы беларусызацыі места, дык пабачым вельмі сумныя зьявішчы. У местах Беларусі—беларуская сьведамасьць гэтак стаіць нізка, што запраўды выклікае сум.

Хто пробаваў прыглядацца да меставога жыхарства дык пэўна заўважыў, што вялікая лічба народу, ані сваім укладам жыцьця, ані моваю нічым не выдзеляецца ад вясковага люду, ад сялянства. Чаму-ж гэта, пры якіх-колечы спробах, як напрыклад, самаўрадавыя выбары беларускасьць не праяўляецца?

А таму, што меставае жыхарства ў працягу шматвекавое няволі, будучы ў бліжэйшай сутычнасьці з народамі нас паняволіўшымі паддаліся дэнацыяналізатарскім чужацкім уплывам, а цяпер зьбіўшыся з праўдзівага шляху, або аддаюць свае галасы за чужынцаў, або страціўшы актыўнасьць зусім устрымліваюцца ад галасаваньня. Аб праўдзівасьці гэтага найлепей сьведчыць Горадня.

У Горадні, згодна ўрадавых дадзеных ёсьць 12 тысяч праваслаўнага жыхарства, якіх ніякім спосабам нельга залічыць Палякамі. Гэта людзі (а іх $^{1}/_{3}$ частка ўсяго жыхарства Горадні), або з русыфікаваныя, або проста несьвядомыя Беларусы. І вось, пры гэтакім укладзе нацыянальных адносінаў правіць местам будуць дзьве народнасьці: Жыды і Палякі пры абсалютнай адсутнасьці $^{1}/_{3}$ часткі, якою зьяўляюцца праваслаўныя.

Як вынікае з праяваў самаўрадавых выбараў у местах і як мы ўжо адзначылі, дык беларускі элемэнт па местах зьяўляецца найбалей адсталым ад нацыянальнага руху дзякуючы сваей нясьведамасьці. Апрача таго можна заўважыць і фактычна сьцьвердзіць поўную адсутнасьць актыўнасьці ў беларускіх работнікаў. Ясна, што у гэтакім стане пакідаць справу на далей нельга. Нельга далучыцца да таго, каб беларускія работнікі ды беларуская меставая інтэлігенцыя, або была бяздзейнай апатычнай, або цягнулася ў хвасьце розных польскіх пэпэсаў, энпэраўцаў ды іншых. Неабходна і неадкладна трэба будзіць беларускую сьведамасьць у местах і актыўнасьць работнікаў і цягнуць іх да працы і змаганьня за Бацькаўшчыну. Трэба тыя сумныя зьявішчы, якія мы відзім па местах у сучаснасьці пэратварыць на радасныя праявы... Але хто можа і хто павінен гэта зрабіць?

У кожным месьце ёсьць некалькі сьвядомых і інтэлігентных работнікаў, дык ніхто іншы, а яны павінны і абавязаны зараз-жа ўзяцца за гэта і працаваць.. А каб праца іх была плянамернаю і больш карыснаю, дык яны, гэтыя перадавыя работнікі павінны стварыць „Беларускую Работніцкую партыю“. Мэтаю яе павінна быць абарона правоў беларускага работніка, а ідэалёгія — нацыянальная — беларуская.

Ёсьць-жа на сьведе Ангельская работніцкая партыя, ды іншыя, дык чаму-ж беларускія работнікі пазбаўляны гэтага? Дык чаму-ж беларускі работнік, як які асуджаны на пазбаўленьне роднае арганізацыі, павінен цягацца па чужых і варожых яму партыях?

Дык на вас браты работнікі, хто ўжо пачувае сябе Беларусам, ляжыць сьвяты абавязак ўратаваць сваіх клясавых братоў ад вялікага няшчасьця, вашым браты сьвядомыя работнікі абавязкам, зьяўляецца неабходнасьць даць меставаму работніку-Беларусу сваю родную арганізацыю, якая, як ніхто іншы, будзе бараніць беларускую работніцкую справу!

Дык, у добры час, да працы!

Скарга.

## Спрэчкі у партыі камуністых.

Як ужо ведама, дык некаторыя камуністыя пад праваддырствам Троцкага і Зіноўева не згаджаюцца з рэштаю камуністых.

Прычыны нязгоды ў тым, што, так званы, камуністычны цэнтр паддаўся націску расейскага народу, дык пашоў на „ўступкі“ нацыяналістым, а дзеля гэтага адлажыў на далей сусьветную рэвалюцыю. Троцкі ды Зіноўеў з гэтым не згаджаюцца. Яны дамагаюцца „раздуваць“ „плянэтарны пажар рэвалюцыі“.

Дзеля таго, што ўлада ў руках цэнтра, дык як сам Троцкі, так і яго прыхільнікі знаходзяцца ў няміласьці цэнтравікоў, лідэрамі якіх зьяўляюцца Сталін і Бухарын. За свой бунтарскі капрыз проці паноў камуністычнага палажэньня—Троцкі і Зіноўеў былі зьмешчаны са сваіх высокіх становішчаў, дык цяпер зьяўляюцца радавымі сябрамі партыі. Ім пагражаюць поўным выключэньнем з партыі, калі яны будуць „бунтавацца“. Але-ж, як відаць, дык Троцкі і Зіноўеў вялікія рыбы камуністычнага мора: з імі яшчэ неяк лічацца. Адносна-ж іх прыхільнікаў не цэрамоняцца... Западазроных у прыхільнасьці да Троцкага і Зіноўева зараз-жа выкідаюць з партыі, а пасьля стараюцца хапіць на кручок, ды „прышыць к дзелу...“

Спрэчкі ў камуністычнай партыі гэтак далёка пашырыліся, што гэтымі днямі выключылі з партыі таварыша Прэабражэнскага. Прэабражэнскі разам з Бухарыным напісалі кніжку „Азбука Камунізму“, якая мае гэтакае значэньне, як у хрысьціян—Катэхізіс.

Праціўнікі камуністычнага цэнтру, г. зн. апазыцыянеры прыхільнікі Троцкага і Зіноўева, бяцам маюць падняць дэманстрацыю ў дзесятыя ўгодкі іствованьня камуністычнай улады. Але-ж гэта ім пэўна ня ўдасца, бо пануючыя камуністыя ніякае дэманстрацыі, варожае ім, не дапусьцяць.

Як відаць з некаторых крокаў камуністычнае ўлады, дык сьвяткаваньне дзесятых угодкаў ужо распачалося. Так напрыклад абвешчаны ўжо камуністычны маніфэст, якім—сяму-таму абяцаны сякія-такія міласьці ды амнэстыя, а галоўна вельмі многа запраектавана розных „добрых“ пачаткаў. З прычыны сьвяткаваньня адбываецца цяпер у Петраградзе гістарычная сэсія галоўнага савету. Паседжаньне адбываецца ў бышым Таўрычаскім палацы, дзе месьцілася да рэвалюцыі дзяржаўная Дума. Дык вось па гэтай гістарычнай сэсіі маніфэст камуністычнага ўраду быў зацьверджаны. На тым месцы дзе некалі быў царскі партрэт, цяпер там пастаўлена выляпляна з гіпсу абразіна Леніна. На тое-ж і пераварот!...

## „Саколы“ і „Стральцы“—водзяцца.

У Польшчы ёсьць дзьве вайскова-спартовыя арганізацыі. Адна з іх завыаецца „Сакол“, якая адносіцца варожа да сучаснага ўраду, а другая „Стралец“, якая зьяўляецца прыхільнаю да ўраду і мае мэтаю дапамагаць уладам на мясцох. Дзеля таго, што „Стральцы“ карыстаюцца дапамогаю ад ураду, дык іх арганізацыя болей пашырана на крэсах сярод асаднікаў ды калёністых. З гэтымі „Стральцамі“ беларускае сялянства знаёма. „Сакол“ мае пасьпех на роўні са „Стральцом“ там у каранной Польшчы.

І вось „Дзеньнік Віленскі“ падаў вельмі цікавыя весткі аб працы „Сакола“ і „Стральца“!...

У Грэнбаціне, каля Таруня, „Саколы“ ладзілі забаву, дык гэтаму стараліся перашкодзіць „Стральцы“. У рэзультаце адзін „Сакол“ ад нажовых ранаў апынуўся ў бальніцы, а другі цудам астаўся цэлым ад... ручное бомбы..

А яшчэ цікавей таго, зьяўляецца гэтакая вось вестка, таго-ж самага „Дзеньніка“. Жырардаўская і мшчонаўская каманда „Стральцоў“ адбывала палявыя заняткі, пасьля чаго, гучна бавіліся ў Мшчонаве. У часе гучнае забавы захацелася пабавіцца іншым спосабам—ад чаго ўцярпела 15 чалавек, з якіх некалькі адставілі да бальніцы... У гэтакай забаве пажадаем мы, як „Саколам“ так і „Стральцом“, пасьпеху і ўдачы!.. Баўцяся паны на „здароўячка“!..

